# БЮЛЕТЭНЬ

Беларуск. Рэспублік. К-ту Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых С. С. С. Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы і дырэктывы Беларускага Рэспубліканск. Камітэту. інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 14 (49) | 25-га Сьнежня 1930 году | № 14 (49)

## ЗЬМЕСТ



## ПАСТАНОВА.

### VI-га Пленуму БРКСаюзу Сельгасрабочых, па дакладу т. МАНЖАЛЕЯ, аб працы Прэзыдыуму БРК Саюзу.

Заслухаўшы справаздачу Прэзыдыуму БРК Саюзу, VI-ты Пленум адзначае, што палітычная лінія работы Прэзыдыуму правідловая і практычная работа здавальняючая. Прэзыдыум БРК Саюзу работу сваю праводзіў пад кутом погляду выкананьня дырэктыў XVI-га зьезду Ўсе КП(б), XIII-га зьезду КП(б)Б і адозвы ЦК Ўсе КП(б) ад 3/IX-30 г.

На аснове сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, хуткага тэмпу разгортваньня будаўніцтва саўгасаў і машынанізацыі сельскай гаспадаркі, наш саюз паступова ператвараецца з так званага „батрацкага“ - у саюз кваліфікаваных вытворчых рабочых-трактарыстых, матарыстых, калёнаважатых і г. д.

Саюз Сельгасрабочых як асноўны саюз на вёсцы, пад сталёвым кіраўніцтвам камуністычнай Партыі дабіўся вялізарных посьпехаў у справе рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і ліквідацыі кулацтава як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

1. Асноўнымі дасягненьнямі ў рабоце саюзу Пленум адзначае наступныя:

а) Далейшы рост палітычнай, сьвядомасьці і энтузіазму рабочых саўгасаў, батракоў і наогул членаў саюзу СГР.

У разгортваньні сацспаборніцтва і ўдарніцтва за гэты год маецца значны пералом - колькасьць ударных брыгад павялічылась з 117 да 530, адпаведна з ростам ударнікаў з 929 да 4601 ударніка. Сацспаборніцтвам ахоплены ўсе саўгасы, цалкам ударных саўгасаў маецца 41, у 8 саўгасах арганізаван грамадзкі буксір. У выніку ўсё узрастаючага сацспаборніцтва і масавага паходу саюзу на правядзеньне гаспадарча-палітычных кампаній - пляны па вясеньняму і асеньняму севу па саўгасах выкананы своечасова і з правышэньнем на 12%, а па сустрэчным прамфінпляне пасеўная плошча павялічана на 1008 га.

б) Рост колькасьці саўгасаў за год павялічыўся на 46 адзінак, а ўсяго саўгасаў налічваецца 240. Плошча пад саўгасамі ўзрасла на 122%. Пасеўны клін павялічыўся на 96%. Усім саўгасам прыдадзены спэцыяльны ўхіл (свінагадоўчы, ільнопяньковы). і г. д. Сума капітала-ўкладаньняў па саўгасах за 1930 г. узрасла на 367% (з 4,313700 руб. да 20.166.504 руб.).

в) Рост рабочых кадраў у саўгасах павялічыўся з 9000 да 23000, а членаў саюзу па ўсіх групах з..................да..................

г) Зроблен рашучы пералом у падрыхтоўцы (у арганізованым парадку),па лініі саюзу. кадраў з сельгасрабочых і батракоў па пасылцы ў вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы (падрыхтована праз курсы 1530 чал.), прапушчана па лініі БРК праз розныя вытворчыя курсы (трактарыстых матарыстых, ЦІП і г. д.) 1570 чал. Значна павялічылася ўдзельная вага сельгасрабочых і батракоў ва ўсіх навучальных установах. Павялічылася наогул практыка вылучэньня сельгасрабочых і батракоў на кіруючую працу (вылучана за год каля 1000 чал.). Арганізованы 6-ці месячныя сталыя курсы пры БРК для падрыхтоўкі прафкадраў.

г) Узрастае заработная плата рабочых саўгасаў, паступова палепшаецца іх матар"яльнае становішча, павялічваецца сетка сацыяльна-бытавых і культурных устаноў у саўгасах (сталоўкі, яслі, дзетпляцоўкі, клюбы, чырвоныя куткі і г д). і павялічваецца санаторна курортная дапомога.

д) Праведзена за год ліквідацыя няпісьменнасьці сярод 350742 непісьменных Сельгасрабочых і батракоў.

е) Павялічыўся тыраж Саюзнай друкаванай газэты „Сельгасрабочы Беларусі" і пераход яе да выданьня адзін раз у тыдзень, значна палепшылася справа арганізацыі радыё-газэты.

ж) У сувязі з рэарганізацыяй апарату БРК на сэктарскую сыстэму, некалькі палепшылася жывое кіраўніцтва і практычная дапамога месцам, шляхам пасылкі дабраахвотніцкіх брыгад і зроблен пералом у перебудове работ БРК Саюзу на новыя формы і мэтады пад лёзунгам „тварам да вытворчасьці", але гэты пералом Пленум ня можа лічыць здавальняючым.

з) Пленум асабліва падкрэсьлівае ўсё узрастаючую ролю н/саюзу у сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі і вялікую прарабленую ім у гэтым напрамку работу, так: у час вясеньняй пасеўной кампаніі па лініі саюзу было арганізавана 938 брыгад, з колькасьцю ў іх 7341 чалавак, пры непасрэдным удзеле якіх створана 463 калгасы, арганізованы у 258 калгасах вытворчыя нарады, праведзена вялікая работа па рамонту с/г інвентару, ачыстцы насеньня і г. д.

Пленум таксама адабрае інцыятыву Прэзыдыуму аб правядзеньні „масавай вылазкі сельгасрабчых ў калгасы ў час дэкады калектывізацыі, у выніку чаго ёсьць значныя дасягненьні, як напрыклад: - брыгадамі саюзу ў калгасах прапрацована 38,404 чалавекадні, вылучана рабочых і батракоў на працу старшынь калгасаў 104 чал , арганізаванв 25 новых калгасаў з 1949 бядн.-серадняцк. гаспадарак. Уцягнута 1670 батракоў у калгасы, а за год уцягнута каля 30000 батракоў.

2. Адзначаючы гэтыя галоўныя посьпехі ў рабоце Прэзыдыуму БРК, Пленум таксама падкрэсьлівае і наяўнасьць наступных вялікіх недахопаў:

а) Перабудова прафсаюзнай работы зьверху і да нізу на новыя формы і мэтады, пад лёзунгам „тварам да вытворчасьці" ідзе вельмі марудна, сэктары недастаткова прыстасаваліся да жывога кіраўніцтва і абслугоўваньня нізавой сеткі і членаў саюзу, слаба разгорнута работа па вярбоўцы і скарыстаньні добраахвотнікаў; пасылаемыя на месца брыгады нерацыянальна скарыстоўваюцца ў практычнай працы. Недасягнута яшчэ належная чоткасьць і паваротлівасьць у рабоце сэктараў. Кепска вывучаюцца ўзоры лепшай работы і неналаджаны абмен вопытам работы сярод саюзных арганізацый.

б) Недастаткова яшчэ і да гэтага часу разгорнута сацспаборніцва, ударніцтва і асабліва яго вышэйшыя формы (сустрэчны прамфінплян, буксір, скразныя брыгады і г. д.); вытворчыя нарады ня сталі яшчэ кіруючым штабам сацспаборніцтва і ўдарніцтва, нізавымі саюзнымі

арганізацыямі дрэнна вядзецца барацьба з іліжэўдарніцтвам, па цэламу шэрагу саўгасаў сацспаборніцтва носіць парадны характар. Якасьць і праверка сацдагавароў нездавальняючая. Раённыя зьлёты ўдарнікаў па некаторых раёнах прайшлі самацёкам і без належнага кіраўніцтва Райкомаў саюзу. Слаба ўцягваюцца жанчыны і новыя кадры рабочых саўгасаў ва ўдарніцтва. Дрэнна пастаўлен вучот работы па вывучэньню гаспадарчага эфэкту ад ударніцтва і сацспаборніцтва. Слаба выконваюца рабочыя прапановы і амаль зусім не вывучаюцца якасныя паказчыкі працы (рост вытворчасьці працы, зьніжэньне сабекошту, брак. і г. д.).

в) Культпраца саюзных арганізацый непадпарадкавана асноўным задачам сацыялістычнага будаўніцтва па шырокай мабілізацыі актыўнасьці і ўвагі рабочых і ўсіх членаў саюзу на пасьпяховае выкананьне прамфінплянаў, гаспадарча- палітычных кампаній і выхаваньню сацыялістычна-сьвядомых адносін рабочых, батракоў і спэцыялістых да вытворчасьці.

Работа па ліквідацыі няпісьменнасьці, па ўсеабучу і палітэхнізацыі школы па лініі н/саюзу пастаўлена недастаткова.

г) Умовы па забесьпячэньню рабочых прадуктамі і прамтаварамі вельмі кепскія, рабачкомы ў большасьці сваей няздолелі арганізаваць грамадзкі рабочы кантроль над каапэрацыяй і поўнасцью атрымліваць вызначаныя па дагавору БРК з Белкаапсаюзам устаноўленыя нормы прамтавараў і прадуктаў. Грамадзкімі сталовымі саўгасы забясьпечаны на 60%, і абеды ў большасьці саўгасаў кепскія па якасьці і высокія на іх цэны.

д) Тэмпы жылбудаўніцтва ў саўгасах вельмі марудныя, будаўнічая праграма выканана ў гэтым годзе толькі на 50%, пабудавана ўсяго каля 30.000 куб. мэтр. Пры такіх тэмпах стаіць яўная пагроза зрыву і ставіць пад удар магчымасьць вярбоўкі да вясны 12-15 тысяч новых рабочых у саўгасы.

е) Работа з беднатой і батрацка-бядняцкімі групамі па лініі н/саюзу амаль што не вядзецца, дырэктыва Прэзыдыўму БРК райкомамі і нізавымі ячэйкамі ня выконваецца. У склад Праўленьняў калгасаў батракоў абрана мала. Работа з 25-ці тысячнікамі вядзецца вельмі дрэнна.

ж) Работа па вырашэньні нац. палітыкі Партыі, па беларусізацыі і інтэрнацыянальным выхаваньні і асабліва сярод новых рабочых і жанчын праводзіцца слаба і амаль што адсутнічае сярод нацменшасьцяй.

з) Пленум таксама канстантуе, што крытыка і самакрытыка ў саюзных арганізацыях не пастаўлена на належную вышыню і не зьяўляецца асноўным мэдам прафсаюзнай работы.

3. Для ліквідацыі пералічаных вышэй недахопаў і выкананьня прамфінпляну 1931 г., Пленум БРК прапануе:

а) Рашуча і хутчэй перабудаваць работу БРК і наогул усіх саюзных арганізацый у напрамку сапраўднага павароту тварам да вытворчасьці, у прыватнасьці; Пленум адабрае мерапрыёмствы Прэзыдыуму і лічыць неабходным рэарганізаваць саўгаскі калгасна- батрацкі сэктары ў два новых сэктары — а) вытворчасьці і зарплаты і б) сацыяльна-бытавы. Работу райкомаў і праф'ячэяк па перабудове іх на новыя формы і мэтады зьвязаць з правадзімым 2-х тыднёвікам агляду прафработы. Асабліва зьвярнуць увагу на шырокую вярбоўку добраахвотнікаў і прыцягненьня іх да практычнай работы як у апараце БРК Саюзу, так райкомаў і нізавых праф'ячэек.

Пленум абавязвае ўсе саюзныя арганізацыі шырока разгарнуць, асабліва ў саўгасах сацспаборніцтва і яго вышэйшыя формы (сустрэчны прамфінплян, грамадзкі буксір, скразныя брыгады, вытворчыя манэўры і г. д.), рашуча перабудаваць работу вытворчых нарад і камісій з тым, каб яны ў сапраўднасьці зьяўляліся арганізатарам і штабам кіраўніцтва сацыялістычнага спаборніцтва. Трэба як мага хутчэй устанавіць дасканалы вучот гаспадарчага эфэкту ад сацспаборніцтва, ударніцтва, рабочых прапаноў і вынаходніцтва. Неабходна рацыянальна скарыстоўваць прэміяльныя фонды і своечасова прэміяваць лепшых ударнікаў і ўдарныя брыгады, недапушчаючы, меўшых мейсца, выпадкаў, калі гэтыя фонды дзеляцца па прынцыпу „ўсім па трохі, каб нікога не пакрыўдзіць“. Абавязаць усіх гаспадарнікаў пры дапа-

мозе саюзных арганізацый тэрмінова ўстанавіць сыстэматычны вучот якасных паказчыкаў работы (зьніжэньне сабекошту, рост вытворчасьці працы, прагулы, якасьць прадукцыі, брак і г. д.

б) Разгортваючы сац. спаборніцтва і ўдарніцтва неабходна зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на шырокі ахоп ударніцтвам новых рабочых саўгасаў і асабліва жанчын.

Трэба павесьці рашучую барацьбу з лжэударніцтвам і з усялякімі выпадкамі скажэньня ўдарніцтва і ўсіх форм сац. спаборніцтва. Неабходна ўзмацніць растлумачальную работу па сама-замацаваньні рабочых саўгасаў і спэцыялістых да канца пяцігодкі і рашуча змагацца з „лятунамі", цякучасьцю рабочых.

в) Пленум самым рашучым чынам абавязвае ўсе саюзныя арганізацыі перабудаваць культработу з тым, каб яна была падпарадкавана асноўным задачам сацыялістычнага будаўніцтва і поўнасьцю ізжыта „апалітычнасьць" і голае культурніцтва. Трэба ўзмацніць работу райкомаў і ўсіх праф'ячэек па ліквідацыі непісьменасьці і малапісьменасьці, а таксама па правядзеньню ўсеагульнага навучаньня і палітэхнізацыі школы. Пленум патрабуе ад усіх саюзных ячэеяк і асабліва рабачкомаў саўгасаў без'адмоўнага выкананьня дырэктыў Прэзыдыуму аб рацыянальным скарыстаньні культфондаў і ў прыватнасьці на вытворчую асьвету.

г) Пастанова V-га Пленуму БРК аб падрыхтоўцы кадраў выконваецца вельмі марудна, таму Пленум прапануе ўсім арганізацыям неадкладна праверыць па ўсіх галінах і ўстановах гэты адказны вучастак работы і прыняць усе захады да поўнага выкананьня дырэктыў у гэтым напрамку.

д) Прыняць самыя рашучыя захады да ўзмацненьня тэмпаў жылбудаўніцтва і поўнага выкананьня будаўнічых праграм. Выкарыстоўваючы ўсе мясцовыя магчымасьці будаўніцтва наогул і жылбудаўніцтва ў прыватнасьці, у асеньнязімовы час, павінна разгортвацца так, каб поўнасьцю і ў тэрмін выканаць пляны і забясьпечыць магчымасьць прыняцьця ў саўгасы патрэбнай колькасьці новых рабочых (прыкладна 12-15 тысяч чалавек).

е) Райкомам і рабачкомам саўгасаў узмацніць сваю работу па паляпшэньні рабочага забясьпячэньня саўгасаў прадуктамі і прамтаварамі, згодна вызначаных норм. Арганізаваць шырокі рабочы кантроль над работай каапэрацыі і аказаць ёй неабходную дапамогу ў выкананьні каапэрацыяй узятых абавязацельстваў па абслугоўваньні рабочых саўгасаў і батрацтва. Трэба тэрмінова прыняць рашучыя захады да арганізацыі новых сталовак і паляпшэньні грамадзкага харчаваньня ў саўгасах і якасьці абедаў. Адначасова зьвярнуць увагу на патаненьне сабекошту абедаў.

ж) Арганізацыя і ахова працы ў саўгасах яшчэ і да гэтага часу застаецца вузкім месцам, таму Пленум даручае Прэзыдыуму і ўсім саюзным ячэйкам распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па паляпшэньню гэтай работы.

з) Пленум абавязвае ўсе саюзныя арганізацыі зьверху і да нізу палепшыць культмасавую і партвыхаваўчую працу з новымі рабочымі, жанчынамі, вылучэнцамі, 25-ці тысячнікамі і спэцыялістымі, поўнасьцю забясьпечыўшы дапамогу ім, кіраўніцтва і актыўны іх удзел ва ўсіх працэсах сацыялістычнага будаўніцтва.

і) Адзначаючы значнае паслабленьне работы сярод батрацтва і пастушаства, Пленум патрабуе ад усіх саюзных арганізацый рашучага ажыцьцяўленьня гэтай работы, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ўзмацненьне тэмпаў калектывізацыі батрацтва згодна дырэктыў Прэзыдыуму БРК і на праверку ходу разьліковай кампаніі з батрацтвам і пастухамі.

к) Рост саюзу за лік новых рабочых саўгасаў, батрацтва і сэзонных рабочых ідзе вельмі марудна і нездавальняюча, таму Пленум прапануе Прэзыдыуму і асабліва рабачкомам прыняць усе захады да значнага ўзмацненьня тэмпаў вярбоўкі ў саюз рабочых і батракоў.

л) Важнейшай задачай Саюзу СГР зьяўляецца актыўны ўдзел усіх саюзных арганізацый у цэлым і кожнага члена саюзу ў прыватнасьці ў сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, у замацаваньні існуючых калгасаў і арганізацыі новага масавага прыліву ў калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і батрацтва, таму ўсе райкомы і нізавыя

ячэйкі павінны: на падставе дырэктыў Прэзыдыуму БРК рашуча ўзмацніць работу з беднатой і батрацка-бядняцкімі групамі. Значна пашырыць практыку садружаства саўгасаў з калгасамі і аказаньня ім практычнай дапамогі, шырока разгарнуць работу ініцыятыўных груп камісій па арганізацыі новых калгасаў. Кожны райком і кожная ячэйка н/саюзу павінны мець практычны плян работы ў галіне калектывізацыі.

м) Адабраючы практычныя мерапрыемствы Прэзыдыуму БРК па абвяшчэньні масавага паходу Саюзу на рэалізацыю адозвы ЦК ўсеКП(б) ад 3 IX-30 г., Пленум замацоўвае і на далейшае гэты паход і мабілізуе ўсю масу саюзу на пасьпяховае выкананьне дырэктыў Партыі і Ураду па мабілізацыі грашовых рэсурсаў насельніцтва (пазыка—5-цігодка за чатыры гады, збор паеў у каапэрацыю, збор сродкаў ад самаабкладаньняў і г. д.) і выкананьні загатовак.

н) Асабліва Пленум падкрэсьлівае на неабходнасьць актыўнага ўдзелу ўсяго саюзу СГР у пасьпяховым правядзеньні такіх важнейшых гаспадарча-палітычных кампаніі як перазаключэньне колдагавароў, перавыбары Саветаў і вясеньняя пасеўкампанія.

о) Пленум даручае Прэзыдыуму БРК распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы па арганізацыі шэфства фабрык і заводаў над саўгасамі.

п) Райкомам і ўсім саюзным арганізацыям шырока разгарнуць работу па вырашэньні нацыянальнай палітыкі Партыі, па беларусізацыі, асабліва зьвярнуць увагу на папулярызацыю і практычнае правядзеньне ў жыцьцё пастаноў Кастрычніцкага Пленуму ЦК КП(б)Б па нацпытаньню. Пленум даручае Прэзыдыуму хутчэй распрацаваць практычныя мерапрыемствы па інтэрнацыянальным выхаваньні рабочых саўгасаў і ўсіх членаў н/саюзу. Вядучы рашучую барацьбу з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, неабходна ўзмацніць барацьбу з Беларускім контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам і шовінізмам усіх колераў (яўрэйскі, польскі, літоўскі і г. д.).

Яшчэ больш згуртоўваючы свае шэрагі навакол Камуністычнай Партыі і яе Ленінскага ЦК, рашуча праводзячы адзіна правідловую генэральную лінію Партыі, бязьлітасна вядучы барацьбу з правым апартунізмам у практыцы і тэорыі як з галоўнай небясьпекай, не паслабляючы барацьбы з „левымі“. Саюз Сельгасрабочых апраўдае давер'е Партыі, як асноўнага пралетарскага саюзу ў вёсцы па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

## ПАСТАНОВА

**Пленум БРК саюзу сельгасрабочых, па дакладах Белкантозы „Сьвінавод“, Белсаўгастрэсту, Насентрэсту, Белкаапсаюзу і Ільнапенькааб'яднаньня аб ходзе выкананьня прамфінпляну асобнага кварталу і аб кантрольных лічбах саўгасаў на 1931 г.**

Заслухаўшы даклады саўгасаб'яднаньняў аб ходзе выкананьня прамфінпляну асобнага кварталу і аб кантрольных лічбах саўгасаў на 1931 г. Пленум БРК адзначае:

Што пасьпяховае ажыцьцяўленьне намечаных тэмпаў будаўніцтва саўгасаў у 1931 годзе яшчэ больш павялічвае іх ролю, на аснове вядучай ролі прамысловасьці, у сацыялістычнай перабудове сельскае гаспадаркі ператварае іх (саўгасы) разам з калгасамі ў шырокую сацыялістычную базу па вырабе прадуктаў харчаваньня, сыравіны для прамысловасьці, насеньня і племматар'ялу. Забясьпечваючы ў значнай меры вырашэньне задачы забесьпячэньня гарадоў мясам, малаком, і гароднінай, стварае такім чынам умовы для далейшага падвышэньня рэальнае зарплаты рабочых, саўгасы тым самым яшчэ больш садзейнічаюць паскарэньню тэмпаў індустрыялізацыі краіны, калектывізацыі сялянскіх гаспадарак, ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі.

### Кантрольныя лічбы—сьведка буйнога росту саўгасаў.

Пленум у асноўным ухваляе праектаваньні саўгасаб'яднаньняў па кантрольных лічбах саўгаскага будаўніцтва на 1931 год, як адпавядаючыя задачам, якія вызначаны рашэньнямі XIII-га зьезду КП(б)Б і XVI-га зьезду Усе КП(б), у прыватнасьці:

а) Давядзеньне плошчы пад саўгасамі БСТ да 114 тыс. га, „Сьвінавода"—да 110 тыс. га, Ільнапенькатрэсту—да 60 тыс. га, Насентрэсту да 27 тыс. га, Белкаапсаюзу да 42 тыс. га, а разам да 353 тыс. га, замест 164 тыс. га. у 1930 г. (рост на 215 проц.).

б) Рост плошчы пасеваў з 63.050 га, у 1930 г. да 163.063 га ў 1931 г. (рост на 260 проц.). У тым ліку: па БСТ—з 28.600 га да 44.700 га (ці на 56 проц.); па „Сьвінаводзе" з 20.000 га да 65.000 га (рост на 326 проц.); па Ільнапенькатрэсьце з 3.950 га да 6.763 га (рост на 185 проц.); па Белкаапсаюзу з 3 тыс. га да 25.600 га (рост на 833 проц.), з якіх пад агародамі 7.800 га, замест 1.300 га ў 1930 г.

Запраектаваны Насентрэстам рост пасеўнае плошчы з 7.800 га да 11 тыс. га Пленум лічыць невыстарчальным і патрабуе намячэньня, як мінімум, 21.000 га.

в) Рост стада буйнае рагатае жывёлы па БСТ да 48.700 галоў супроць 19.700 у 1930 г., па Белкаапсаюзу—да 17.400 галоў супроць 7.800 у 1930 г.

г) Давядзеньне колькасьці сьвінаматак на „Сьвінаводзе" на 1/XII-30 г. да 20 тыс., на 1/IV-31 году да 30 тыс. і да канца 1931 г. да 50 тыс. галоў; па Белкаапсаюзу—да 9.100 галоў.

д) Адкорм сьвіней па „Сьвінаводзе" 90 тыс. галоў, па Белкаапсаюзу—60 тыс. галоў.

е) Капіталаўкладаньні па БСТ—18 млн. 500 тыс. руб.; па „Сьвінаводзе"—27 млн. руб.; па Ільнапенькатрэсьце 11 млн. 670 тыс. руб.; па Насентрэсьце—5 млн. 830 тыс. руб.; па Белкаапсаюзу 14 млн. руб.; а ўсяго 77 млн. руб., супроць 20 млн. руб. у 1929-30 г. (рост на 385 проц.).

### Пляны асобнага кварталу выканаць поўнасьцю.

Улічваючы надзвычайную важнасьць асобнага кварталу для ліквідацыі прарываў у выкананьні вытворчых праграм саўгасаў і пасьпяховае падрыхтоўкі да выкананьня вялізарных планаў 1931 г. Пленум канстатуе, што выкананьне большасьцю саўгасаў асноўных работ асобнага кварталу ідзе зусім нездавальняюча і маецца яскравая пагроза зрыву;

а) Плян зяблівага ворыва выкананы на 15-XI толькі на 40 проц., асабліва паграsevere — 

б) Па „Сьвінаводзе"—з намечаных 57 тыс. сьвінамесц новых пабудавана толькі 4,470 месц, прыстасавана ў старых будынках 7.500 месц і будуецца 18.670 месц; такім чынам, на 50 проц. будаўніцтва нават не распачата,

в) Плян укамплектаваньня сьвінаматкамі выкананы толькі на 73 проц. (замест 20.000 сьвінаматак маецца толькі 14.665).

г) Амаль поўнасьцю ня выкананы плян жылбудаўніцтва.

д) Зрываецца будаўніцтва абор і цялятнікаў па саўгасах БСТ і Белкаапсаюзу.

Для забесьпячэньня сваечасовага і поўнага выкананьня і перавыкананьня пляну будаўніцтва саўгасаў у 1931 г., выпраўленьня раду буйных недахопаў у праектаваньнях кантрольных лічбаў на 1931 г. і для ліквідацыі буйнейшых прарываў у справе выкананьня работ асобнага кварталу, Пленум БРК пастанаўляе:

### Забясьпечыць саўгасы неабходнымі плошчамі.

Адзначаючы, што замест патрэбных па кантрольных лічбах саўгасам трэсту „Сьвінавод" 110 тыс. га адведзена толькі 30 тыс. га; па Белкаапсаюзу замест 42,600 га—27 тыс. га, па Насентрэсьце замест 27 тыс. га толькі 20 тыс. га, што перш за ўсё пагражае зрывам выкананьня плянаў разгортваньня саўгаснага будаўніцтва ў 1931 г., Пленум БРК лічыць неабходным:

а) Прасіць СНКБ абавязаць НКЗ і РВК прыняць хуткія і рашучыя захады да поўнага адводу зямельных плошчаў

пад саўгасы, скончыўшы адводы не пазьней як да 15/XII-30 г.

б) Абавязаць усе РК і рабачкомы саюзу арганізаваць самую хуткую і шырокую дапамогу ў выяўленьні свабодных зямель і хуткім іх адводзе. Пгставіць гэтае пытаньне на шырокае абгаварэньне рабочых сходаў, сходаў і пасяджэньняў бюро сэкцыі спэцыялістых. Для дапамогі і грамадзкага кантролю арганізаваць з рабочых ударнікаў і спэцыялістых —спэцыяльныя брыгады. Задачу хутка вышукаць і поўнасьцю адвесьці пад саўгасы зямлю, паставіць асноўнай задачай і сэкцый спэцыялістых па раёнах.

Пленум падкрэсьлівае асаблівую важнасьць поўнага адводу плошчы пад саўгасы „Сьвінавод" і каапэрацыі.

**Забесьпячэньне кармамі і арганізацыя догляду— галоўнае ў жывёлагадоўлі.**

Задача максымальнай вытворчасьці мяса саўгасамі „Сьвінаводу" патрабуе рашучае барацьбы з эпізоотыямі за захаваньне кожнай сьвінаматкі. Пленум высоўвае, як задачу 1931 г., выхаваць ня менш 7 падсьвінкаў на адзін апарос у прамысловых гаспадарках і 9 у племянных гаспадарках. Пленум абавязвае дырэктароў саўгасаў, рабачкомы і РК; а) безадкладна ўкамплектаваць штаты сталых рабочых па сьвінагадоўлі найбольш здольнымі і падрыхтаванымі рабочымі і работніцамі; б) забясьпечыць першачарговае паляпшэньне матар'яльна-бытавых умоў рабочых сьвінарнікаў; в) забясьпечыць 100 проц. выкананьне зоавэтмінімуму, як падставы рэальнай барацьбы з эпізоотыямі; г) у правадзімы зараз ударны месячнік па ліквідацыі прарываў у галіне сьвінагадоўлі забясьпечыць 100 проц. выкананьне ўсей гаспадарчай праграмы, а для гэтага дабіцца сапраўды штурмавых тэмпаў работы на базе сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Адзначаючы што ўкамплектаваньне малочных стад у 1930 г. у значнай меры ішло за лік малапрадукцыйнай жывёлы, што малочныя фэрмы ЦРК і часткова БСТ зусім не забясьпечаны кармамі, не наладжана правільнае кармленьне, догляд, асабліва па саўгасах ЦРК, надзвычайна дрэнны, у выніку ўсяго гэтага надзвычайна нізкія ўдоі (па саўгасах ЦРК у верасьні—4,5 літра, у жніўні 4,9), Пленум прапануе БСТ, Белкаапсаюзу і саюзным арганізацыям на справу ўзьняцьця прадукцыйнасьці малочнага стада зьвярнуць асаблівую ўвагу, у паасобку:

а) Пленум лічыць недастатковым запраектаваны сярэдні гадавы ўдой па БСТ у 1.700 літраў, па фэрмах Белкаапсаюзу 2.000 літраў.

б) Не дапускаць укамплектаваньня малочных фэрм малапрадукцыйнай жывёлай.

в) Прыняць хуткія захады да забесьпячэньня кармамі, упарадкаваць кармленьне, забясьпечыўшы строгую эканомію кармоў і падсьцілу. Арганізаваць нарыхтоўку і выкарыстаньне на падсьціл торфу, хвоі, апілак і г. д.

г) Павесьці рашучую барацьбу за паляпшэньне ўтрыманьня і догляду за малочнай жывёлай і цялятамі.

Загрузка маючыхся трактароў усё яшчэ надзвычайна нізкая (значная колькасьць трактароў працуе ў адну зьмену). Саўгасаб'яднаньні ня маюць нават дакладных праектаваньняў аб нагрузцы на трактар. Пленум ставіць, як мэту для 1931 г., запраектаваць і дабіцца 3.500 гадз. работы трактара.

На палявых работах трактары выкарыстоўваюць выключна калёнамі, канчаткова спыніўшы работу ў полі ў адзіночку. Рабочым камітэтам, саўгасаб'яднаньням і прэзыдыўму БРК устанавіць і забясьпечыць правядзеньне шэрагу мерапрыёмстваў па эканоміі гаручага, змазачнага, барацьбе з паломкамі трактароў.

**Рабочыя адкажуць сустрэчным прамфінпляном.**

Асабліва падкрэсьліваючы поўную неналажанасьць плянаваньня работы саўгасаў, поўную атсутнасьць распрацоўкі праектаваньняў якасных паказчыкаў на 1931 г., атсутнасьць кантрольных лічбаў па „Сьвінаводзе" і фактычнае адсутнічаньне прамфінпляну ў саўгасах Пленум абавязвае саўгасаб'яднаньні і прэзыдыўм БРК безадкладна і рашуча перабудаваць і палепшыць усю сыстэму плянаваньня саўгаскага будаўніцтва ў прыватнасьці:

а) Кантрольныя лічбы на 1931 год

спусьціць у саўгасы не пазьней як 1/XII г. г.

б) На працягу з 1 да 20 сьнежня павінны быць складзены прамфінпляны саўгасаў, арганізавана іх абгаварэньне рабочымі і выпрацоўка сустрэчнага прамфінпляну.

в) Забясьпечыць пасылку ў саўгасы канчаткова зацьверджаных прамфінпляпаў не пазьней 10/І-31 г.

г) Пленум адабрае патрабаваньні прэзыдыўму аб самастойным прамфінпляне для кожнае асноўнае галіны і вучасткаў саўгасаў і абавязвае саўгасаб'яднаньні поўнасьцю ажыцьцявіць гэта ў прамфінпляне 1931 г.

д) Саўгасаб'яднаньням і саюзным арганізацыям забясьпечыць давядзеньне прамфінпляну да кожнае рабочае брыгады, групы, да кожнага рабочага.

е) На дапамогу саўгасам у складаньні прамфінпляпаў паслаць увесь апарат саўгасаб'яднаньняў. Шырока прыцягнуць спэцыялістых раёнаў. Пленум рашуча патрабуе ад саўгасаб'яднаньняў, дырэктароў саўгасаў і рабочых камітэтаў забясьпечыць выкананьне ўсяе будаўнічае праграмы і падрыхтоўку да будаўніцтва 1931 году. Для гэтага патрэбна ня толькі ня спыніць, а наадварот значна ўзмацніць дравлянае будаўніцтва ў зімовы час, безадкладна арганізаваць падвоз будаўнічых матар'ялаў, дадаткова завербаваць рабочую сілу. Адзначаючы рад шкодніцкіх учынкаў на будаўніцтве Банонь, Шыкатавічы), што магло зьявіцца толькі ў выніку слабага рабочага кантролю, невыкарыстаньня сваячасова рабочых прапаноў і недапушчальна дрэнна пастаўленай прафработы сярод будаўнікоў, Пленум патрабуе ад прафсаюзных і гаспадарчых арганізацый паставіць ход будаўніцтва ў цэнтр штодзённае ўвагі, забясьпечыўшы мабілізацыю рабочых на больш хуткае, добраякаснае і таннае будаўніцтва.

**Змагацца за якасьць работы—за зьніжэньне сабекошту і ўздым вытворчасьці працы.**

Канстантуючы што дырэктывы партыі пра паляпшэньне якасных паказчыкаў працы (зніжэне сабекошту, узьняць це вытворчасьці) усё яшчэ амаль ня выконваюцца, Пленум абавязвае саўгасаб'яднаньні і саюзныя арганізацыі разгарнуць штодзённую ўпартую барацьбу за лепшую якасьць работы. У кантрольных лічбах і прамфінпланах, у вытворчым заданьні кожнаму рабочаму вызначаць заданьні па зьніжэньні сабекошту, падвышэньні прадукцыйнасьці працы даць у саўгасы кантрольныя паказчыкі аб шляхох і парадку барацьбы за выкананьне якасных паказчыкаў. Для 1931 г. Пленум ставіць задачу— зьніжэньне сабекошту саўгаскай прадукцыі і будаўніцтва ня менш, як на 15 проц., падвышэньне ўраджаю зернавых ня менш як на 15 проц., гародніны ня менш, як на 20 проц.

**Націснуць на жыльлёвае і культурнае будаўніцтва.**

Выдаткі на жыльлёвае і культурнае будаўніцтва па БСТ у суме 2.360.000 р. і па ільнапенькатрэсьце ў суме 2.500.000 рублёў—адобрыць. Па „Сьвінаводзе" настойваць на вызначэньні для жылбудаўніцтва 5.500.000 рублёў і для будаўніцтва клюбаў сталовых і ясьляй —720.000 рублёў, як гэта зацьверджана V-ым Пленумам БРК саюзу. Адзначаючы, што запраектаваныя Насентрэстам выдаткі на жылбудаўніцтва ў суме 103.000 руб. зусім не забясьпечваюць выкананьня пастановы СНК СССР ад 12/І-30 г., Пленум патрабуе, каб вызначаныя папярэднім (V-ым) Пленумам БРК саюзу 927.000 рублёў на жылбудаўніцтва і 306.000 руб. на культурна-бытавое будаўніцтва былі б цалкам уключаны ў прамфінплян 1931 году. Белкаапсаюзу, сумесна з Прэзыдыўмам БРК, сродкі на жылбудаўніцтва вызначыць з агульных капіталаўкладаньняў, забясьпечыўшы такі аб'ём яго, які-б адпавядаў запатрабаваньням, якія вызначаны ў пастанове СНК СССР за 12/І-30 г.

Выкананьне плянаў жылбудаўніцтва на 1930 г. сарвана. Падкрэсьліваючы, што недахоп жыльля зрывае ўкамплектаваньне перзважнай большасьці саўгасаў рабочай сілай, Пленум патрабуе ад саўгасаб'яднаньняў, рабачкомаў і райкомаў забясьпечыць поўнае і сваячасовае выкананьне плянаў жыльлёвага і культурнага будаўніцтва 1931 году і перш за ўсё поўнасьцю скончыць будаўніцтва 1930 г. Арганізаваць шырокі штодзённы

рабочы кантроль за ходам будаўніцтва жыльля і культурна-бытавых устаноў.

### Укамплектаваць штаты саўгасаў

Колькасьць рабочых саўгасаў павінна ўзрасьці з 22.000 сталых і сэзонных на 1-Х-30 г. да 35.000 на 1-VI-31 г. Падкрэсьліваючы, што ад сваячасовага і поўнага ўкамплектаваньня штатаў залежыць выкананьне прамфінппянаў 1931 году, пленум прапануе дырэктарам саўгасаў сумесна в рабачкомамі і РК зараз жа скласьці падрабязныя каляндарныя пляны набору рабочай сілы і ў адпаведнасьці з гэтымі плянамі павесьці штодзённую работу па ўкамплектаваньні саўгасаў рабочай сілай. Пытаньні ходу ўкамплектаваньня сыстэматычна заслухоўваць на рабачкомах і на вытворчых нарадах, забясьпечыць правільны сацыяльны падбор новых рабочых.

Адабраючы ў аснаўным праектаваньні БРК і саўгасаб'яднаньняў па падрыхтоўцы кадраў, пленум абязвае гаспадарчыя і саюзныя арганізацыі забясьпечыць сваячасовае і поўнае ўкамплектаваньне ўсіх курсаў і школ. Забясьпечыць вылучэньне на курсы сапраўды лепшых рабочых-ударнікаў.

Акрамя пляну вытворчай дапамогі саўгасаў калгасам, саўгасаб'яднаньням распрацаваць у прамфінплянах 1931 году і пляны арганізацыйнай і агратэхнічнай дапамогі калгасам.

Дырэктывы партыі пра адзінаначальле ажыцьцяўляюцца ў саўгасах надзвычайна слаба, таму пленум абавязвае саюзныя арганізацыі, побач з узмацненьнем барацьбы з праявамі бюракратызму, з боку адміністрацыі саўгасаў, забясьпечыць актыўны ўдзел у поўным выкананьні гэтай важнейшай дырэктывы партыі.

Адзначаючы недапушчальнае становішча па садзейнічаньні рабочаму вынаходніцтву, Пленум даручае прэзыдыуму БРК сумесна з саўгасаб'яднаньнямі ўстанавіць і забясьпечыць правядзеньне практычных мерапрыемстваў па садзейнічаньні рабочаму вынаходніцтву, поўнаму і сваячасоваму выкананьню рабочых прапаноў.

Адзначаючы, што дырэктывы папярэдняга Пленуму па разгортаваньні работы па арганізацыі працы ў саўгасах амаль поўнасьцю ня выкананы. Пленум абавязвае саўгасаб'яднаньні і Прэзыдыум забясьпечыць шырокае разгортваньне работы па арганізацыі працы па рацыяналізацыі вытворчасьці, у прыватнасьці, лічыць патрэбным шырока прыцягнуць да гэтай работы навукова-дасьледчыя ўстановы Інстытут Свінагадоўлі, Інстытут Аховы і інш.). Павінен быць у найбольшай ступені павялічаны пераход на зьдзельшчыну і наладжана правільнае выкарыстаньне фонда прэміяваньня.

Адабраючы рашэньне Прэзыдыуму БРК пра вылучэньне саўгасаў; імя Х-цігодзя БССР, Вішнёўкі, Боркі-Бялевічы, Сталіна, В-Фаніпаль, Уваравічы і Вольная Праца ў вопытна-паказальныя саўгасы. Пленум абавязвае саўгасаб'яднаньні і Прэзыдыум пры складаньні і зацьвярджэньні прамфінплянаў на 1931 г. устанавіць па гэтых саўгасах такі аб'ём работы, будаўніцтва, а потым кіраваньня дапамогі і інструктаваньня, якія-б забясьпечылі сапраўдную прыкладнасьць работ.

Пленум заклікае ўсіх рабочых, работніц і спэцыялістых саўгасаў да штодзённай барацьбы за падвышэньне саўгаснае вытворчасьці, за найболшы ўраджай, удой, за выхаваньне і адкорм найбольшай колькасьці парасят і іншай жывёлы, да упартай барацьбы за найменшы сабекошт, за стражайшую эканомію сырцу, матар'ялаў, кармоў, гаручага. Упарта штодзенна змагацца з стратамі, па ломкамі, за найбольш поўную нагрузку машын, цягавай сілы, рабочага дня. Пленум абавязвае ўсіх гаспадарнікаў, рабачкомы, РК і Прэзыдыўм БРК штодзенна мабілізаваць ініцыятыву рабочых да гэтай барацьбы, забясьпечыўшы хуткае і поўнае выкарыстаньне рабочых прапаноў.

### Мабілізаваць актыўнасць мас на выкананьне і перавыкананьне прамфінплянаў.

Пленум ставіць асноўнай задачай для Прэзыдыуму БРК, усіх райкомаў, рабачкомаў, саўгасаў і сэкцый спэцыялістых; рашуча перабудаваць усю сваю работу ў напрамку найбольшага ўцягненьня і арганізацыі рабочай масы на ўпартую штодзённую барацьбу з цяжкасьцямі ў саўгаскім будаўніцтве, за поўнае

выкананьне і перавыкананьне плянаў саўгаскага будаўніцтва. Усю работу накіраваць на арганізацыю сацыялістычнага спаборніцтва, ударніцтва, грамадзкага буксіру, вытворчых манэўраў і іншых форм сацспаборніцтва.

Буйны ўзрост саўгасаў яскрава сьведчыць аб правільнасьці генэральнай лініі камуністычнай партыі і наносіць руйнуючы ўдар па праваапартуністычным разважаньні аб немагчымасьці шпаркіх тэмпаў саўгаскага будаўніцтва.

Рашучае разгортваньне саўгаскага будаўніцтва і нямінучыя ў сувязі з гэтым цяжкасьці нашага росту, правыя апартуністыя імкнуцца скырыстаць у мэтах атакі на генэральную лінію партыі.

Улічваючы гэта і наяўнасць фактаў праваапартуністычнага парадку, якія мелі месца ў саўгасах (Вязынь-Фаніпаль, Сталіна, Дукора), пленум абавязвае саюзныя арганізацыі штодзённа мабілізаваць увагу і пільнасць рабочай масы на бязьлітасную барацьбу з праявамі правае практыкі ў саўгаскім будаўніцтве, са спробамі шкодніцтва з боку клясавага ворага.

Пленум заклікае ўсе масы рабочых, работніц і спэцыялістых саўгасаў яшчэ цясьней згуртавацца вакол камуністычнай партыі, самаадданасьцю, бальшавіцкімі тэмпамі саўгаскага будаўніцтва наносіць рашучы ўдар па клясавым ворагу, яго агентуры, правым апартуністым, прымірэнству да правых апартуністых і права—„лявацкім“ блёку.

## ПАСТАНОВА

### аб'яднанага паседжаньня Прэзыдыуму БРК Саюзу СГР і ЦП Саюзу Медсанпрацы па пытаньню перадачы вэтпрацаўнікоў у саюз Сельгасрабочых.

Сацыялістычная рэканструкцыя народнай гаспадаркі, пасьпяховае разьвіцьцё будаўніцтва саўгасаў і калгасаў і арганізацыя жывелагадоўчых гаспадарак, фарсыраванае правядзеньне мерапрыемстваў па барацьбе з стратамі ў жывелагадоўлі і поўнага забясьпячэньня ў выкананьні плянавых заданьняў па разьвіцьцю жывелагадоўлі ў саўгасах і калгасах і індывідуальным сэктару, усё гэта па новаму ва ўвесь рост ставіць пытаньне арганізацыі вэтэрынарных мерапрыемстваў, каторыя неадзяліма павінны складаць адзінае цэлае ва ўсей сыстэме вытворчых працэсаў сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі.

Выходзячы з прынцыпу адзінай савецкай вэтэрынарыі і адзінага кіраўніцтва вэтсправай, аб'яднанае паседжаньне Прэзыдымаў БРК саюзу СГР і ЦП саюзу Мэдсанпрацы ў адпаведнасьці з рашэньнямі VII Пленуму ЦБ вэтсэкцыі і Усебеларускага з'езда вэтпрацаўнікоў пастанаўляе:

а) Да 20-га Лістапада 1930 г. з саюзу Мэдсанпрацы перадаць саюзу сельгасрабочых усіх членаў прафсаюзу вэтэрынарных працаўнікоў і іх прафсетку як горада, так і вёскі, з гэтага жа чысла саюз СГР поўнасьцю прыступае к прафаслугоўваньню паказаных вышэй працаўнікоў.

б) 15-га лістапада Прэзыдыуму Рэсбюро вэтсэкцыі перайсьці ў БРК саюзу СГР на правах раней існуючых палажэньняў аб РБ вэтсэкцыі.

в) Членаў і кандыдатаў Пленуму ЦП Мэдсанпрацы—вэтпрацаўнікоў т. т. Жарын М. Н (член) і Якаўлеў (кандыдат) адпаведна каапціраваць у Пленум БРК Саюзу СГР.

Усе члены, кандыдаты і праф. упаўнаважаныя вэтпрацаўнікі ўваходзячыя у склад Месцкому і райаддзяленьняў саюзу Медсанпрацы адпаведна каапцірующца ў склад Райкомаў саюзу СГР.

г) Ва ўсех гарадох (акрамя Менску) і раённых цэнтраў, дзе налічваецца звыш 15 чалавек вэтпрацаўнікоў пры райкомах саюзу СРГ павінны быць тэрмінова арганізаваны мейсцовыя бюро вэтпрацаўнікоў.

д) Структура нізавых праф'ячэяк вэтпрацаўнікоў, устаноўленая ЦК МТС і VI Пленумам вэтсекцыі поўнасьцю захоўваецца і ў саюзе СГР.

е) Даручыць райкомам саюзаў СГР у дэкадны тэрмін прыняць ад саюзу Мэдсанпрацы пад свае непасрэднае кіраўніцтва і абслугоўваньне нізавую прафсетку і членаў саюзу вэтпрацаўнікоў і

прыступіць да абмену прафбілетаў, РБ Вэтсэкцыі даць мейсцам належныя указаньні.

ж) Членскія ўзносы і ўсе другія грашовыя паступленьні па прафсетцы вэтпрацаўнікоў з 1-га лістапада паступаюць непасрэдна ў саюз СГР. Для фінансавага разьмежаваньня з саюзу Мэдсанпрацы стварыць парытэтную камісію ад БРК т. Жывіцкага і ЦП Мэдсанпрацы т. Мельнікава. Спорныя пытаньні вырашаюцца аб'яднанымі паседжаньнямі двух ЦП саюзаў.

з) У выкананьні рашэньня з'езда вэтпрацаўнікоў лічыць неабходным увядзеньне аслабаненага працаўніка РБ Вэтсэкцыі пры БРК Саюзу СГР.

і) Улічвая набліжэньне Ўсебеларускага з'езду Саюзу СГР, даручыць райкомам СГР забясьпечыць прысутнасьць на даным з'ездзе дэлегатаў-вэтпрацаўнікоў.

к) Для найлепшага праф'абслугоўваньня і разгортваньня палітыка-масавай работы сярод вэтпрацаўнікоў даручыць РБ вэтсэкцыі ў дэкадны тэрмін унесьці на разгляданьне Прэзыдыуму Беларускага Рэспубліканскага Камітэту плян работы і ўсе неабходныя мерапрыемствы ў гэтай галіне.

л) Даручыць газэце „Сельгасрабочы Беларусі" і ўсім райкомам саюзу шырока разгарнуць работу па растлумачэньню сярод вэтпрацаўнікоў і ўсіх членаў саюзу СГР данай пастановы і ўсіх мерапрыемств, зьвязаных з пераходам вэтпрацаўнікоў у саюз СГР.

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыяту Гандлю БССР. Гор. Менск.

### Аб парадку снабжэньня рабочых саўгасаў прадуктамі і прамтаварамі.

1. На падставе паказаньняў Саюзнаркамгандлю ўстанавіць наступны парадак і нормы снабжэньня рабочых і агратэхнічнага пэрсаналу саўгасаў прадуктамі і прамтаварамі.

Норма на адзін м-ц

| Групы саўгасаў | Мукі рж. у кгр. | Крупы у кгр. | Мяса кгр. | Цукру гр. | Махоркі гр. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1) Саўгасы сьвінаводу, Малочна-маслян. трэсту, Ільнопенька трэсту, агратэхпэрсаналу і машына-трактарн. станц. | 21,7 | 2,5 | 1,0 | 700 | 200 |
| 2) Саўгасы інш. сыст. | 21,7 | 1,5 | — | 700 | 150 |

УВАГА: Астатнімі прадуктамі, не паказнных у гэтай табліцы, рабочыя і агратэхпэрсанал саўгасаў снабжаюцца на аднолькавых ўмовах, як іншыя рабочыя данай мясцовасьці.

2. Для ўтрыманцаў рабочых і агратэхпэрсаналу саўгасаў усіх сыстэм нормы водпуску прадуктаў на адзін м-ц устанавіць:

Мукі ржаной — 8 кгр. да 5-ці год і 12 кгр. звыш 5-ці год.

Крупы . . . — 1,2 кгр.

Цукру . . . — 400 кгр. і астатнімі прадуктамі, як утрыманцы інш. рабочых данай мясцовасьці.

3. Калі саўгас мае малочную, гаспадарку, дык сталым рабочым і агратэхпэрсаналу гэтага саўгасу і іх дзецям, а таксама дзецям служачых выдаюцца малочныя прадукты па наступных нормах, ўнезалежнасьці ад таго, ці зьяўляецца малочнае стада таварнага значэньня, ці спажывецкага характару (нормы на зімовы пэрыяд):

Рабочым і агратэхпэрсаналу 1/2 літра малака ў дзень.

Дзецям рабоч. агратэхпэрсаналу і служач. да 12 год. 1/2 літр. малака ў дзень.

Дзецям рабоч. аргатэхпэрсаналу і служач. да 12 год. 150 гр. масла ў м-ц.

Адзіночкам рабочым. 3/4 л. малака ў дзень.

Вучням с.-г. школ саўгасу 1/2 літра малака ў дзень.

УВАГА: Малако ці масла можа быць заменена па ўстаноўленаму

каафіцыенту адно другім а таксама могуць быць заменены малако і масла сырам па ўстаноўленаму каафіцыенту.

Калі саўгас не мае сваіх малочных прадуктаў, альбо калі сваіх малочных прадуктаў на выдачу па гэтых нормах не хапае, дык паказаныя прадукты ня выдаюцца, альбо норма скарачаецца. Дадаваць жа гэтыя прадукты з аднаго саўгасу ў другі - забараняецца.

4. Згодна пастановы СПА ад 26/IX-30 г. будаўнічыя рабочыя, якія працуюць на будаўніцтве саўгасаў, прыраўніваюцца да сталых рабочых тэй сыстэмы саўгасаў, дзе ўтвараецца гэтае будаўніцтва, за выключэньнем норм мяса.

5. Часовыя (падзённыя) рбочыя, якія знаходзяцца на катлавым харчаваньні, снабжаюцца прадуктамі харчаваньня па нормах устаноўленых для сталых і сэзонных рабочых данай сыстэмы саўгасаў.

6. Сталыя і сэзонныя рабочыя ўсіх сыстэм саўгасаў прыраўніваюцца да снабжэньня пляніруемымі прамтаварамі (бав. і шарсьцяныя тканіны, гатовае адзеньне, скуртавары, абутак) да рабочых гарадоў сьпіса №-2.

Гатовае адзеньне, скуртавары і абутак абавязкова павінны выдавацца ў першую чаргу ўдарнікам-рабочым, якія вядуць сацспаборніцтва, у другую чаргу-кадравым рабочым не ўдарнікам і ў 3-ю чаргу-астатнім.

7. Абавязаць Белкаапсаюз, па ўзгадненьні з БРК Саюзу сельгасрабочых у дэкадны тэрмін распрацаваць мерапрыемствы па палепшэньню парадку снабжэньня рабочых саўгасаў прадуктамі харчаваньня і прамтаварамі, у прыватнасьці, прадугледзіць, адчыненьне ў найбольш буйных саўгасах, зачыненых разьмеркавацеляў і г. д.

8. Адзначаючы надзвычайна слабую арганізацыю грамадзкага харчаваньня ў саўгасах, абвязаць БКСаюз і Рэспубліканскія Аб'яднаньні саўгасаў у дэкадны тэрмін устанавіць цьверды плян разгортваньня грамадзкага харчаваньня ў саўгасах на 1931 год.

Адначасова распрацаваць мерапрыемствы па арганізацыі сетцы каапэрацыйных адкормачных пунктаў (фэрм і гарадоў) у саўгасах.

Нам наркамгандлю БССР (**Абрамсон**).

Узгоднена з БРК Саюзу СГР (**Манжалей**)

Згодна: Сэкратар БРК. **Юшкевіч**.

**Выдавецтва Бел. Рэс. К-ту Сельгаслесрабочых СССР.**

Адказны рэдактар **Манжалей**.
Намесьнікі яго: **Лашкевіч, Юшкевіч**.

Галоўлітбел № 363. Зак. № 193.—Тыраж 1000. Друкарня Менспраўдому.